© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (1077) БЕЛАСТОК 17 КАСТРЫЧНІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.



*Аграмадны сілас для нарыхтоўкі паранай бульбы. Бо так шырока разгорнутая гадоўля патрабуе зусім новых спосабаў нарыхтоўкі кармоў.*

## БАГАЦЕЕ СПУЛДЗЕЛЬНЯ

Першы мураваны будынак, кароўнік для некалькіх дзесяткаў красуль, на спулдзельчым панадворку ў Вульцы Нурэцкай паявіўся, здаецца, у 1956 годзе. Пасля настаў час, неспрыяльны для калектыўных метадаў гаспадарання. Вульчанская спулдзельня, аднак, паспяхова яго перажыла, пашыраючы пастаянна сваю маёмасць.

— Што зараз чуваць у спулдзельцаў Вулькі Нурэцкай?

— Жывем нядрэнна, стараемся, каб было яшчэ лепш, — адказаў мне Мікалай Кусачук, які тут ужо шмат гадоў з'яўляецца кіраўніком прадукцыі. Ён сам з тутэйшых сялян. Разам з бацькам быў сярод тых 13-ці гаспадароў, што ў 1954 годзе арганізавалі сельскагаспадарчы кааператыў у Вульцы Нурэцкай. Завочна закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і стаў вопытным спецыялістам.

— Цяпер, — гаворыць ён, — наша спулдзельня аб'ядноўвае 50 сем'яў, якія супольна апрацоўваюць амаль 800 гектараў зямлі. На нас таксама ўскладзены абавязак загаспадарыць усе дзяржаўнага фонду зямлі, якія тут накапляецца ў выніку таго, што старэйшыя сяляне масава аддаюць сваё гаспадаркі дзяржаве ў замен за пажыццёвыя пенсіі.

— Як ураджай у гэтым годзе?

— Як на тутэйшыя ўмовы, ураджай добры. Жыта — 27 цэнтнераў, аўса — 35 цэнтнераў, а ячменю — аж 40 цэнтнераў з аднаго га.

— Ці вашы суседзі-аднаасобнікі могуць пахваліцца таксама высокімі ўраджаямі?

— А дзе ж там! Гэта нават голым вокам відаць было, калі параўнаць спулдзельчую і аднаасобную ніву.

— Адкуль тады такая розніца?

— У нас уся праца ў полі поўнасцю механізавана, даем высокія дозы мінеральнага і натуральнага ўгнаення. У сярэднім на 1 гектар высяваем цяпер аж 220 кг хімічна дзейсных элементаў (НПК). Адтуль і вынікі, нічога з неба.

Працяг на стар. 4

### Пуцяводныя думкі

Чалавек найбольшы поспех робіць у тым, чаму найбольш аддаецца.

*Ф. Бэкон*

Лёгкадумнасць глядзіць лёгка на рэчы сур'ёзныя і сур'ёзна на рэчы бязглуздыя.

*Ж. Даламбер*

Тое, што мы ведаем — абмежаванае, а тое, чаго мы не ведаем — бясконцае.

*П. Лаплас*

## НЕЗВЫЧАЙНАЯ БІЯГРАФІЯ ЗВЫЧАЙНАГА ЧАЛАВЕКА

Цікавяць мяне людзі, якія трывала ўпісаліся ў гісторыю Белавежы. Прадставіў я іх ужо на старонках „Нівы" даволі многа, ды капальня незвычайных біяграфій усё-такі не вычэрпваецца. Сёння пара на Аляксандра Ляха. Многа я чуў пра яго палітычную і грамадскую дзейнасць ад жыхароў Белавежы. І мог бы напісаць аб ім ад свайго імя. Ды думаю, што цікавей раскажа ён сам. Вось што сказаў мне А. Лях, калі я папрасіў прадставіць гісторыю свайго жыцця:

— Што ж, — сароміцца мне свайго жыцця, думаю, не трэба. Нарадзіўся я ў Белавежы ў 1913 годзе, бацька быў земляробам. Жылося нам цяжка, зрэшты, не толькі нам. Вядома, якія тады былі часы. У школу пайшоў у 9 гадоў. Скончыў усяго 6 класаў. Працаваць — зарабляць пачаў яшчэ будучы школьнікам, у 12 гадоў. Найчасцей пілаваў драўніну служачым і яўрэям. Хапала на падручнікі і сшыткі. Як споўнілася мне 15 гадоў, пачаў я зарабляць больш. Даваў нават бацьку на падаткі.

У 1933 г. уступіў у КПЗБ. Наша ячэйка на Стачку налічвала каля 15 чалавек. Памятаю, што ў склад яе ўваходзілі Афанасій Байко, Аляксандр Зелянюк, Вольга Габец, Марыя і Ядвіга Гелінг, Павел Валкавыцкі, Мікалай Варламін, Шлёма Касоўскі. Гэта тыя, што ўжо памерлі. Жывуць жа яшчэ Кірыл і Мікалай Шпаковічы, Кірыл Смактуновіч, Адам Бялко, Ян Бушко. Мне прызначылі абавязкі скарбніка і сувязнога. Дзейнасць сваю вёў я сярод лясных і тартачных рабочых. У час забастовак распаўсюджваў лістоўкі ў самой Белавежы і сумежных з пушчай вёсках, збіраў харчы для сем'яў забастоўшчыкаў.

У 1937 г. прызвалі мяне ў польскую армію, у 79 полк пяхоты ў Слоніме. Тут я сваёй дзейнасці не спыніў. 24.XII.1937 г. дастаў я святочны водпуск і пастанавіў наведаць бацькоў. Дамоў прыехаў назаўтра а 5 гадзіне раніцы. Не паспеў адпачыць, калі а 8 гадзіне з'явіла-

(Працяг на стар. 4)



*Аляксандр Лях.*

### Новыя вершы

## Тры матулі

З народнага

Меў аж тры матулі пехацінец
І не мог ніводнае пакінуць.

Маці, што салдата нарадзіла,
Мужнасцю, адвагай надзяліла.

А Радзіме-маці ён ніколі
Здрадзіць не пасмеў на ратным полі.

Са сваёй матуляю-зямліцай
Пехацінцу хіба разлучыцца?

Першая — салдата нарадзіла,
А другая — вываваць вучыла.

Трэцяя — не запытаўшы згоды —
Да сябе забрала назаўсёды.

**Анатоль Белавус**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



## ХРОНІКА

■ 17 верасня ў Новай Волі, 18 — у Меляшках, 19 — у Валілах, 20 — у Гарадку і 21 — у Вейках (гміна Гарадок) адбыліся пасяджэнні праўленняў гурткоў БГКТ, на якіх абмяркоўваліся справы актывізацыі іх дзейнасці ў асенне-зімовым перыядзе. Шмат увагі было прысвечана рэгулярнаму аплочванню членскіх складчын і развіццю мастацкай самадзейнасці.

■ 19 верасня харавы калектыў БГКТ з Дубяжына і эстрадная група з Плёсак пад мастацкім кіраўніцтвам Пятра Нявінскага далі канцэрт на гмінных дажынках у Вульцы Тэрахоўскай (гміна Чарэмха), а вяртаючыся адтуль, выступілі на сцэне клуба ў Сухавольцах (гміна Кляшчэлі).

■ Сакрат Яновіч і Ян Чыквін 22 верасня правялі аўтарскія сустрэчы ў наступных школах: у Гарадку, Меляшках, Валілах і Вейках (гміна Гарадок) і ў вясковых клубах у Шымках і Навасадах (гміна Міхалова).

■ 22 верасня праўленне гуртка БГКТ у Беластоку на сваім чарговым пасяджэнні прыняло план працы да канца бягучага года. У гэтым плане многа ўвагі ўдзелена мастацкай самадзейнасці, дакладчыцкай дзейнасці, сустрэчам з цікавымі людзьмі, удзелу гуртка ў конкурсах ГП БГКТ, новым формам працы, у тым ліку і дыскусіі над савецкімі фільмамі. Затым праўленне прыняло ў рады БГКТ новых 30 чалавек, якія падпісалі членскія дэкларацыі. Такім чынам, гарадскі гурток БГКТ у Беластоку налічвае цяпер больш як 700 членаў.

■ 23 верасня Прэзідыум ГП БГКТ абмеркаваў справаздачу аб дзейнасці ў мінулым культурна-асветным годзе, зацвердзіў правілы конкурсаў (песеннага, драмгурткоў, дэкламатарскага) і разглядзеў некаторыя арганізацыйныя справы.

■ 26 верасня пасяджэнне праўлення навуковага гуртка БГКТ прысвечана было далейшым яго выданням. (мх)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Беларускія трактары

...Шырокая, урачыстая плошча, абрамаваная соснамі. У яе цэнтры на п'едэстале нязвыклы помнік — калясны трактар. Цячэ побач з ім густы чалавечы паток: ідзе рабочая змена мінскіх трактарабудаўнікоў. Яны ідуць побач застыўшага трактара, успрымаючы яго як прывычную дэталь плошчы. Не ўсе, зразумела. Бо ніколі не змогуць забыць тыя, хто працаваў над стварэннем першынца шматлікай сёння сям'і трактараў „Беларусь“, таго радаснага дня, які стаў яго нараджэннем — 14 кастрычніка 1953 года.

Ці зможа моладзь, якая крочыць побач з ветэранамі, зразумець іх хваляванне, радасць, урачыстасць, якія царылі ў той дзень каля трактаразборачнага цэха нумар 2, з якога з рыкам імгнення выкаціў „МТЗ-2“ з завадскім нумарам „1“? Ці не скажа ён так: „Ну і што ж, трактар сабралі...“

Можа сказаць. І не будуць папракаць ветэраны сваю змену за гэта паказное „ну і што ж“... Бо ведаюць: ганарыцца новае пакаленне трактарабудаўнікоў сваім славутым заводам. Ганарыцца тымі, хто 30 год назад прыйшоў сюды, на далёкую тады ўскраіну разбуранага горада, каб абудзіць ад векавой дрымоты сасновы бор, каб залажыць фундаменты першых цэхаў трактарнага.

Тыя, каму было 20, хто радаваўся першынцу беларускага трактарабудаўніцтва ў пачатку пяцідзесятых, цяжкавата парою і зразумець тую дзелавітую сур'ёзнасць, з якой моладзь успрымае факт, што сёння штодзённа завод пакідае больш трохсот дасканалых машын. Прывык рабочы сямідзесятых да лічбаў з некалькімі нулямі, звыкся з размахам, тэмпамі вытворчасці. Гэтым яго не здзівіш. Ён сам хоча здзіўляць. І здзіўляе.

Такіх тэмпаў, такога росту прадукцыйнасці працы, павышэння яе эфектыўнасці і якасці, якімі парадавалі мінчане краіну ў гады дзевятай пяцігодкі, яшчэ не знала гісторыя трактарабудаўніцтва. Некалькі гаворачых за сябе лічбаў: 14 лістапада 1975 года калектыў рапартаваў аб датэрміновым выкананні плана пяцігодкі па аб'ёму вытворчасці і росту прадукцыйнасці працы. Аб'ём вытворчасці павялічыўся на 44,4 працэнта, а планам была прадугледжана іншая лічба — 38,9 працэнта. Рост прадукцыйнасці працы склаў 141,9 працэнта. І зноў заданні апярэджаны амаль на 2,5 працэнта! Каля 64 мільёнаў рублёў звышпланавай прадукцыі, у тым ліку 6236 трактараў, на 14,5 мільёнаў рублёў запасных часцей. Так закончылі трактарабудаўнікі беларускай сталіцы дзевятую пяцігодку, пяцігодку, якая пачала лік другому мільёну трактараў.

Выконваючы пастаўленую партыяй і ўрадам задачу па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі краіны і аснашчэнню яе новай тэхнікай, завод асвоіў вытворчасць новых высокапрадукцыйных трактараў — „МТЗ-80“, прызнаных лепшымі трактарамі 1975 года. Датэрмінова, да заканчэння рэканструкцыі, прадпрыемства выйшла на сваю праектную магутнасць — 85 тысяч трактараў у год.

Як не ганарыцца калектыву гэтымі дасягненнямі! А канструктары, схіліўшыся над чарцяжамі, паганяюць: дзень сённяшні — дзень учарашні. У цішы канструктарскіх бюро нараджаюцца мадэлі новых, яшчэ больш магутных, дасканалых машын. Ствараць змогуць, зразумела, толькі высокакваліфікаваныя спецыялісты, да тонкасці пазнаўшыя сваю прафесію. І трактарны вучыцца. На завадскіх курсах павышэння кваліфікацыі штогод займаюцца сотні інжынераў і тэхнікаў, папаўняючы свае веды па пытаннях эканомікі, кіравання. вытворчасцю, новай тэхнікі. Гэтым жа мэтам служыць дзейнічаючы ўжо многа год пры заводзе філіял інстытута павышэння кваліфікацыі спецыялістаў Міністэрства трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва СССР.

Той факт, што дзесяткі і сотні мінчан накіроўваліся некалі вучыцца рабіць трактары на падобныя прадпрыемствы, цяпер ужо стаў гісторыяй завода, Сёння яны самі сталі настаўнікамі і шчодра дзеляцца сваім вопытам з калегамі, што прыязджаюць да іх з усіх куткоў краіны. Едуць у Мінск удасканальваць сваё майстэрства і спецыялісты Польшчы, Венгрыі, Югаславіі, Балгарыі, ДРВ. Цеснай дружбай звязаны беларускія трактарабудаўнікі з таварышамі па працы Карлаўскага трактарнага завода ў Балгарыі, польскага „Урсуса“.

Доўгія чыгуначныя саставы пачынаюць свой няблізкі шлях штодзённа з заводскай брамы. На платформах кантэйнеры з адрасамі соцень і тысяч населеных пунктаў краіны, шасцідзесяці краін зямнога шара.

**Юрый Лабінскі**
**Фота В. Казлова**



*Трактары, гатовыя да адпраўкі карыстальнікам.*

Генерал Піначына сядзеў за рабочым сталом і любаваўся сваёй фатаграфіяй, якая ўпрыгожвала вокладку часопіса „Шпрынгер“. Ён не ведаў чужой мовы, але з дапамогай слоўніка зразумеў значэнне тэксту пад здымкам, дзе яго абвяшчалі „смелым і справядлівым правадыром свайго народа“. Тры гады назад генерал выбраў сябе прэзідэнтам краіны галасамі кулямётаў. Таму яго можна лічыць смелым і справядлівым правадыром народа, які ідзе па шляху, вызначанаму Адольфам Вялікім і Беньяміна Муска.

Рабочы стол у яго шыкоўным кабінеце некаторыя замежныя дыпламаты і ўладальнікі медных руднікоў лічаць сімвалам міру. Калі генерал садзіцца за свой рабочы стол, яго позірк у любы момант можа адпачыць на прыгожым аўтамаце, які ляжыць побач. На стале, прама ля левай рукі, стаіць цудоўна сплецены кошык для садавіны. Праўда, у кошыку не яблыкі, апельсіны і бананы, а дзесятак ручных гранат. На ўсякі выпадак.

Якую вялікую радасць і душэўнае задавальненне прынесла генералу вокладка вядомага часопіса! Ён быццам убачыў сябе з німбам на галаве і таму міжволі перахрысціўся. Яго малітва была перапынена з'яўленнем у кабінеце маладога палкоўніка, які аб'явіў:

— Ваша вялікасць абяцалі прыняць карэспандэнта часопіса „Шпрынгер“. Дазвольце запрасіць?

— Вы праверылі яго кішэні?

— Так, ваша правасхадзіцельства. Мы таксама сфатаграфавалі яго тры разы і, акрамя таго, узялі адбіткі пальцаў.

— Добра. Запрасіце.

Праз дзве мінуты маладжавы журналіст атрымаў дазвол сесці насупраць генерала Піначына і пачаць інтэрв'ю.

— Што б вы хацелі даведацца? — спытаў генерал. — Я магу ўдзяліць вам дзесяць мінут.

— Вы вельмі ветлівы, пан генерал, — пачаў рэпарцёр. — Дазвольце спачатку спытаць пра ваша здароўе.




## ІНТЭРВ'Ю Ў ПРЫСУТНАСЦІ АЎТАМАТА

— Адчуваю сябе цудоўна, асабліва калі мае ворагі супакоены.

— Яны расстраляны або ў турме?

— Ні тое і не гэта. Я гуманіст і прыхільнік міру. Я не адабраю насілля.

— Некаторыя газеты сцвярджаюць, што ў краіне, якой вы кіруеце, пануе нейкі тэрор.

— Я не ведаю, што азначае гэта слова... Што б вы яшчэ хацелі даведацца?

— Гэтыя ж газеты пішуць, што ў вашай краіне праследуюць дэмакратычна настроеных людзей. Акрамя таго, некаторыя шкодныя газеты пастаянна сцвярджаюць, што ў турмах вашай краіны знаходзяцца тысячы невінаватых, якіх падвяргаюць катаванням.

— Гэта няпраўда! — выгукнуў генерал і схапіўся за аўтамат, які ляжаў на стале. — У маёй краіне невінаватых не саджаюць у турму. Хіба можна лічыць нявіннымі тых людзей, якія злачынна імкнуцца падзяліць усё пароўну і патрабуюць для народа тое, што народу не належыць? Хіба яны не яўныя злачынцы?

— Так, пан генерал. Яны ворагі дэмакратыі.

— Што б вы яшчэ хацелі даведацца?

— А ваш папярэднік? Ён таксама быў вінаваты?

— Калі вы маеце на ўвазе таго, які адабраў прыватныя землі і заводы ў лепшых грамадзян нашай краіны і замежных сяброў, то ён быў самым страшэнным злачынцам у яе гісторыі.

— Я таксама гэтак лічу, пан генерал. Але, нягледзячы на гэта, там-сям яшчэ ёсць некаторыя краіны, якія выступаюць у абарону вашага папярэдніка.

— Гэта не мае ніякага значэння, бо дэмакратыя, якую я прадстаўляю, належным чынам ацэнена многімі краінамі і іх урадамі. Мною кіруе адна думка: усеагульны мір на зямлі магчымы толькі пры тым, што бедныя застануцца беднымі, а багатыя — багатымі.

— Вялікае дзякуй, пане генерал, за гэта каштоўнае, хоць і кароткае інтэрв'ю. У канцы я хацеў бы задаць яшчэ адно пытанне.

— Пытайце!

— Пан генерал, якія яшчэ ў вас ёсць пажаданні?

— Я, не ўтойваючы, спадзяюся, што ў будучым годзе пры прысуджэнні Нобелеўскай прэміі міру ўспомняць пра мяне.

**Марці Ларні,**
фінскі пісьменнік




**Sobota 16.X.** 6.00 RTV Szk. Śred. Mat. 6.30 Biolog. 10.00 Dla szkół (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.10 Film fab. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.45 Red. Szk. zap. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dla dzieci. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Śpiewaj razem z nami. 18.05 Prawdy i legendy przyrody — film dok. fr. 19.00 Dobr. 19.30 Dzien. 20.35 Podstępna gra — film fab. ang. 21.25 P. nożna. Portugalia — Polska. 23.15 „Winda” nr 5.

◇

**Niedziela 17.X.** 6.35 Tech. Rol. Fiz. 7.05 Upr. rośl. 7.35 Kurs Rol. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Przyp., radz. 8.45 Alarm przeciwpoż. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 W starym kinie: Antoś czyli Antoni Fertner. 11.50 Bitwa pod Poitier — film dok. franc. Wielkie bitwy. 12.45 Dzien. 13.00 TYLKO W NIEDZIELĘ. 19.00 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.40 TYLKO W NIEDZIELĘ — d.c.

◇

**Poniedziałek 18.X.** 12.45 RTV Szk. Śred. J. pol. 13.25 Tech. Rol. Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.45 Moskiewski taksówkarz — film fab. radz. 19.00 Dobr. 19.30 Dzien. 20.40 Teatr TV: J. Osborne — Nie do obrony. 22.15 Piknik — film rozr. ang. 22.45 Dzien.

◇

**Wtorek 19.X.** 9.00 Dla szkół (kl. V—VI) J. pol. Spotkanie z pisarzem. 10.00 Dla najmł. Czerw., żółte, ziel. 10.10 List i podwójne oświadczyny — film ser. ang. Wojna i pokój. 11.05 Dla szkół (kl. III lic.) J. pol. St. Wyspiański. Wesele. 12.00 (kl. VIII) Hist. Rządy parlament. w Polsce. 12.55 Dla szkół śred. Rodzina współcz. Na ślubnym kobiercu. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.05 Studio Mł. 17.50 Licytacja. 19.00 Dobr. 19.30 Dzien. 20.40 Piękna Hipolita — film. fab. wł. 22.15 100 pytań do Romana Kłosowskiego. 23.00 Dzien.

◇

**Środa 20.X.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 9.00 Dla szkół (kl. VII) Chem. Gaz życia. 10.00 Kurier z Warny — film fab. 12.00 Dla szkół (kl. VIII) Chem. 12.30 RTV Szk. Śred. Chem. 13.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.30 P. nożna: Śląsk — Bohemians. 15.40 NURT. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Los. Mał. Lot. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 16.55 P. nożna: Wisła — RDW Molenbeck. 19.00 Dobr. 19.30 Dzien. 20.40 Filmoteka Arcydzieł: Ucieczka skazańca — film fab. fr. 22.30 Sport. 23.40 Dzien.

◇

**Czwartek 21.X.** 6.00 RTV Szk. Śred. Chem. 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 8.20 Ucieczka skazańca — film fab. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Hist. Kultura polska w XV w. 11.05 (kl. VII) J. pol. Ignacy Krasicki. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przyp., radz. 17.05 Ekran z bratkiem. 18.10 Poligon. 18.35 Komicy niemego ekranu — film arch. USA. 19.00 Dobr. 19.30 Dzien. 20.40 Nić życia, nić śmierci — film USA (Columbo). 21.50 Pegaz. 22.35 Dzien.

◇

**Piątek 22.X.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół. (kl. V) Geogr. Krajobraz przemysł. 10.00 Columbo — film USA. 11.05 Dla szkół (kl. VII) Wych. ob. Pomoc i współpraca. 12.00 (kl. VII) Geogr. Komunikacja w ZSRR. 12.45 RTV Szk. Śred. Mat. 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Dla młodych widzów: Skrzydła. 18.00 Informator Wyd. 18.25 Na kogo popadnie. 19.00 Dobr. 19.30 Dzien. 20.40 Jedno krótkie lato — film fab. ang. 22.20 XYZ cz. I. 23.00 Dzien.




**Piątek 15.X** — 8.15 Film ser. 13.40 Film ser. 17.50 Film ser. 19.30 Operetka. 20.35 Film dok. 20.55 Tenis stoł. ZSRR—Węgry.

◇

**Sobota 16.X** — 8.30 Film ser. 10.35 Film fab. 12.00 Hokej. Spartak — Chimik. 17.00 P. nożna. Dynamo (Kijów) — Torpedo. 19.30 Koncert.

◇

**Niedziela 17.X** — 9.00 Koncert. 11.30 Film fab. 13.15 Pr. muz. 15.30 Piosenka — 76. 16.30 Klub film. 17.30 Spektakl TV. 19.30 Pr. muz. 20.40 Rugby: Czechosł. — ZSRR.




**Białowieża** Partita na instrument drewniany — pol. 19—20. Samotny detektyw — USA 21—22. Przyjaciele Eddiego — USA 23—24.

**Czyże** Był sobie glina — fr. Julka, Julia, Juleczka — NRD 20—24.

**Dubicze Cerkiewne** Zaklęte rewiry — pol. W drodze na Kasjopeję — radz. 20—24.

**Gródek** Trzej muszkieterowie — panam. 23—24.

**Michałowo** Pojedynek na szosie — USA 19—20. Rozwód — węg. 21—22. Trzej muszkieterowie — panam. 23—24.

**Mielnik** Synowie szeryfa — USA 20. Węgorz za 300 milionów — fr. 23—24.

**Milejczyce** Niewygodny kochanek — wł. 19—20. Mazepa — pol. 21—22. To jeszcze nie miłość — NRD 23—24.

**Narew** Ostatni wiosenny śnieg — wł. Przeznaczenie ma imię Kamila — czes. 20—24.

**Narewka** Podróż — wł. Znikąd do nikąd — pol. 20—24.

**Nurzec** Nieszczęście Alfreda — fr. 19—20. Drzewo bez korzeni — buł. 21—22. Przedmałżeńskie podboje — czes. 23—24.

**Orla** Poszukiwany — poszukiwana — pol. Pięć łatwych utworów — USA 20—24.

**Rajsk** Gdzie jest jubilat — jug. Deps — jug. 20—24.

B.Z.Graf. Zam. 2427 F-4.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



Сацыяльна-адміністрацыйны будынак, у якім будзе святліца, два памяшканні і бюро спулдзельні. Побач склад на збожжа і мінеральныя ўгнаенні.

# БАГАЦЕЕ СПУЛДЗЕЛЬНЯ

Пачатак на стар. 1

У апошнія гады на спулдзельчым панадворку шырокім фронтам разгарнулася будаўніцтва інвентара.

— Стараемся не адставаць, — сцвярджае кіраўнік Кусачук, — ад галоўных напрамкаў палітыкі нашай партыі. Таму рашылі мы разбудаваць базу для гадоўлі свіней. Корм маем уласны, на дапамогу дзяржавы азірацца не вымушаны, дык і ўмовы дзеля гэтага ў нас спрыяльныя.

— Ідзем сярод новых будынкаў, вакол якіх мітусяцца яшчэ рабочыя Бельскага прадпрыемства вясковага будаўніцтва.

— Свінагадоўля, — паясняе кіраўнік, — будзе ў нас наладжана камплектна ў закрытым кругу: ад уласных свінаматак і парасят аж да паўнавартасных кормнікаў, прызначаных на продаж.

— Ці таксама займаецеся гадоўляй кароў?

— Так, аднак у абмежаваных размерах, бо дзеля гэтага не маем спрыяльных умоў, не хапае нам пасбішчаў. Цяпер у нас 100 з лішнім кароў, пераважна маладняку, які мы бярэм на адкорм, а пасля прадаем на мяса.

З пабыўкі ў спулдзельні прадукцыйнай у Вульцы Нурэцкай прывёз я некалькі здымкаў, якія, мяркую, дадуць чытачам лепшае ўяўленне аб тым, што там зараз дзеецца, чым самы падрабязны расказ. Яшчэ толькі дадамо, што вартасць усіх спулдзельчых будоўляў дасягнула 30 мільёнаў злотых. Значыць, спулдзельня шмат пабагацела.

(вр)

Фота аўтара



За старой хлеўнёй у гэтым годзе паявіўся вялізны новы будынак для гадоўлі свінаматак і парасят. Тут спулдзельцы ўжо вядуць адкорм 600 кормнікаў за адзін раз.

МАЕ РОЗДУМЫ

# ВОКАМ І СЭРЦАМ ЧЫТАЧА

У сувязі з VIII з'ездам БГКТ многа пра яго пішацца на старонках „Нівы". Не скажу, што заўсёды добра, часам трэба глянуць не толькі на дасягненні, але ацаніць і недахопы. Праўду сказаўшы, дык БГКТ на вёсцы мала дзейнічае. Ад з'езду да з'езду няма таго, каб хто прыехаў у вёску, пагаварыў з тутэйшымі бэгэкатоўцамі. Сход з удзелам госця адбыўся толькі перад з'ездам. І тут яшчэ іншая справа. З двух гурткоў выбралі аднаго дэлегата і таму дакладчык прыязджаў толькі ў адзін гурток — у Большы.

Так было і ў Галадах. Прыехаў да нас заслужаны дзеяч БГКТ Васіль Антыпюк з Бельска. Доўга гаварылі члены галадоўскага гуртка з мілым госцем. Аб чым? Аб розных нашых справах. І вечар зляцеў хутка. Выбралі дэлегата на з'езд. Некалькі асоб, у тым ліку і я, уступілі ў арганізацыю. У справаздачы напісалі пра тое, каб арганізаваць у вёсцы сустрэчу з нейкім беларускім паэтам ці пісьменнікам, каб прывезці беларускі фільм. І ўжо столькі часу прайшло, а пра ўсё тое не чуваць. А нам жа хочацца, каб наш гурток жыў і развіваўся.

Ад таго часу мы самі арганізавалі некалькі сходаў. На адзін з іх аж з Бельска прывезлі гарманіста — паспявалі і пагутарылі. Было вельмі прыемна. Але нам не толькі хочацца, каб самім пасядзець. Мы хочам, каб усе жыхары вёскі ўдзельнічалі ў тым, што робіць гурток.

Такія гуртkоўскія вечары бываюць вельмі цікавымі. Вось, калі арганізавалі ў мінулым годзе сустрэчу з Аляксандрам Амільяновічам, дык сабралася многа, многа людзей. Усе з захапленнем слухалі яго апавяданне. Была жывая дыскусія. Усе, хто прысутнічаў на вечары, купілі яго кніжкі з подпісам. Так магло б быць і на сустрэчы з Алесем Баршчэўскім ці з кім іншым.

Валянцін Анапюк

(Працяг са стар. 1)

# Незвычайная біяграфія звычайнага чалавека

ся гранатовая паліцыя. Зрабіла рэвізію, шукаючы камуністычных лістовак і зброі. Не знайшоўшы нічога, арыштавалі мяне і даставілі на пастарунак. У гэты дзень арыштавалі амаль усю нашу ячэйку.

Як потым ужо мы даведаліся, выдаў нас Мікалай Мышкевіч, які потым, у момант уваходу ў 1939 г. на гэтую тэрыторыю савецкіх войск, змыўся і слух па ім загінуў.

26.XII. скавалі нас усіх у кайданы і адвезлі ў следчае аддзяленне ў Бельску Падляшскім на допыт. Нягледзячы на мучэнні (нас калолі іголкай за пазногці, саджалі пальцы між дзвярэй, саджалі на жалезнае крэсла і падключалі ток), ніхто да нічога не прызнаўся і нікога не выдаў. Следства закончылі ўначы. Нас адпусцілі ды кожны з маіх таварышаў павінен быў 3 разы ў тыдзень рапартавацца на белавежскім пастарунку паліцыі. Я вярнуўся ў полк. Неўзабаве ў маёй роце была праведзена рэвізія — шукалі камуністычных лістовак. Нічога не знайшлі. Пасля рэвізіі паклікаў мяне камандзір палка, наклаў мне разоў па твары, зняважыў і выкінуў за дзверы. Ад гэтага часу стаў я палкавым падмятальшчыкам. У канцы мая 1938 г. прыслалі мне акт абвінавачвання па артыкулу 97/93 і павестку ў акруговы суд у Беластоку на выязной сесіі ў Белавежы. Судзілі мяне 9.VI.38 г. Прыгавор для мяне казаў: 2 гады турмы і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. 2 гады турмы даравалі па амністыі, рэшта засталася. З арміі вызвалілі 18.IX.1938 г.

Жылося мне вельмі цяжка. Не мог атрымаць ніякай пастаяннай працы. Праследавала гранатовая паліцыя. І так было да прыбыцця ў 1939 г. на тэрыторыю Беласточчыны Савецкай Арміі. У 1940 г. выбралі мяне дэпутатам сельсавета ў Белавежы. Потым накіравалі на курс агітатараў у Бельск. Пасля заканчэння двухмесячных курсаў камандзіравалі ў лугавую гаспадарку Нікар для правядзення агітацыйнай працы сярод рабочых. Быў я тут да таго дня, калі немцы напалі ў 1941 г. на Савецкі Саюз. Праз некалькі дзён гестапа арыштавае мяне і маіх таварышаў. Звязалі нас, укінулі ў аўтамашыну і адвезлі ў Беласток у штаб на вуліцы Варшаўскай. 2 тыдні каталі. Пасля адпусцілі мяне дамоў. У ліпені выселілі сумесна з бацькамі ў ваколіцу Пружаны, у сяло Аранчыцы. Гітлераўцы не дазволілі нічога з сабой узяць. Гаспадарку бацькі канфіскавалі. У Аранчыцах наняліся мы парабкамі ў нямецкі маёнтак. Іншага спосабу пражыць не было. Нераз даводзілася атрымаць нагайкай па плячах ад уладальніка, хаця працавалі ад раніцы да ночы. Таму з небывалай радасцю прывіталі мы вызваленне. 30.VIII. 1944 г. мабілізуюся ў Савецкую Армію. Пасля капітуляцыі немцаў мяне дэмабілізуюць. Вяртаюся дамоў. Бацькі былі ў Савецкім Саюзе, два браты загінулі на фронце. Цяжкі быў пачатак. Гаспадарка бацькі была разбурана. У снежні 1945 г. уступаю ў рады ППР. У наступным годзе жанюся. Працую землеробам, а ад 1950 г. наглядчыкам-зубраводам у Белавежскім нацыянальным парку. У 1952 г. выбіраюць мяне грамадскім інспектарам працы. Гэтую функцыю выконваю 2 тэрміны паўнамоцтва. Сакратаром ПАП ПАРП пры БНП з'яўляюся ў гадах 1962-64, 1968-70, а членам камітэта ад 1970 г. Функцыю раднага займаю ад 1969 г. да 1973 г. У кастрычніку 1975 г. перайшоў я на партыйную пенсію.

І вось мая біяграфія. Жыццё маё не было выслана ружамі. Ды я нічога не шкадую.

П. Байко

Фота аўтара




*Жыхары Відава, прадчуваючы набліжэнне восеньскіх дажджоў, а таксама з думкай аб веснавых растопах, кінуліся ў пошукі рыбацкіх ботаў. Трэба ж неяк будзе ў горад дабірацца.*

*(мша)*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XVI

**Гумарыстычная плынь. Сацыяльныя адносіны.** Ахарактарызуем вершы, у якіх паказаны камічныя моманты адносін паміж сялянамі і інтэлігенцыяй. Гэта праблема праяўляецца ў творах „Няўмекі і лекі", „Рэцэпт", „У фельчара", „Нейтралітэт", „Шчодрая ахвяра". У трох першых творах паказаны розныя камплікацыі паміж сялянамі і прадстаўнікамі медыцыны, два апошнія датычаць сялян і чыноўнікаў.

Верш „Няўмекі і лекі", хаця і ўтрыманы ў духу аб'ектывістычнай люстрацыі здарэнняў, па сутнасці вастрыём выступаючага ў ім камізму накіраваны супраць сялянства. Праўдападобна, твор гэты, як і многія іншыя вершы Паўловіча, быў расшыранай вершаванай версіяй панскіх анекдотаў аб наіўнасці селяніна. У творы выступаюць элементы гумару праўдападобнага, але ёсць у ім і гумар неверагодны. Змест верша зводзіцца да неўласцівай рэалізацыі сялянскай сям'ёй парадаў фельчара. Да рэальных трэба аднесці апісанні, паводле якіх хворы селянін амаль адразу выпіў прызначанае на многа дзён лякарства. Такое здарэнне ў даўняй вёсцы зусім магчымае. Цяжка, аднак, паверыць, што жанчына, атрымаўшы ад фельчара рэцэпт і пачуўшы раду „прыкладайце гэта", прыклейвае рэцэпт сваму мужу на хворае месца. Маем тут дачыненне з выразнай, магчыма, нават фальшывай гіпербалікай. Якраз такога роду гумарыстычныя апавяданні аб наіўнасці селяніна бытавалі ў панскім або чыноўніцкім асяроддзі і, мабыць, Паўловіч выкарыстаў адзін з іх у сваім вершы.

Трэба падкрэсліць, што з вонкавага, фармальнага боку верш „Няўмекі і лекі" ясны і дынамічны і, несумненна, смешны, незалежна ад таго, як аднесемся да грамадскай вымовы твора.

Верш „Рэцэпт", бадай, таксама вядзе свой радавод з анекдота. Змест яго такі. Лекар наведаў хворую сялянку і прыпісаў ёй лякарства. У сувязі з тым, што не меў пры сабе паперы, запіс зрабіў на дзвярах. Селянін валачэ рэцэпт-дзверы ў аптэку. Вастрыё камізму накіравана тут у не меншай ступені супроць лекара, чым селяніна. Можна спрачацца, хто больш смешны: селянін, які цягне ў аптэку дзверы, ці лекар, які на дзвярах выпісвае рэцэпты. Стылістыка верша „Рэцэпт" адзначаецца выключнай лёгкасцю і камунікатыўнасцю. Вось фрагмент твора:

*Зазваў доктара да жонкі,*
*Той яе абслухаў,*
*Не жалеў я — за фатыгу*
*Пяць рублёў убухаў!*
*Доктар прыпісаў мікстуру*
*І глытаць таблеткі...*
*Не было шматка паперы,*
*Дык быў добры гэткі,*
*Што спісаў рэцэпт на дзверы,*
*Не зрабіў папрэку...*
*Памажы з кручкоў зняць дзверы,*
*Занясу ў аптэку.*

Усё ў форме верша лагічнае. Выказванне селяніна ў фармальным сэнсе праўдападобнае за выключэннем аднаго слова — „мікстура". Гэтае слова селянін у часах Паўловіча, бадай, калі б нават і пачуў яго, то не запомніў бы і не быў бы ў стане вымавіць. Гэта, аднак, толькі нязначная дэталь.

Апошні верш з медыцынскага цыкла мае загаловак „У фельчара".

Твор гэты — хаця і няма ў ім адаўтарскіх мараляў, выразна накіраваны супраць недапечаных медыкаў, якія, не маючы элементарных медыцынскіх ведаў, адным спосабам лячылі ўсе хваробы. У творы апавядае аўтар аб візіце дзвюх жанчын у фельчара. Адна з гэтых жанчын старая, мае хворую галаву; у другой, маладой, хворы жывот. Фельчар адну лечыць рыцынай і другую лечыць рыцынай. Калі адна з жанчын выяўляе здзіўленне: чаму розныя хваробы лечацца адным і тым жа спосабам, фельчар ужывае капітальны аргумент — адно лякарства, бо хворыя з адной вёскі. Несумненна, смешна.

Мабыць, і гэты верш з'яўляецца апрацоўкай анекдота. Па сутнасці ўсе з'явы грамадскага жыцця, прадстаўленыя ў „медыцынскім" цыкле, мелі сумны характар. Стан здароўя беларускай вёскі і спосабы яе лячэння былі безнадзейныя. Многія беларускія пісьменнікі пісалі аб гэтых справах часта ў драматычным, а нават трагічным аспекце. Паўловіч глянуў на гэтыя справы праз камічную прызму. Якія-колечы прэтэнзіі да пісьменніка былі б тут не абаснаваны.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

### КАСТУСЬ У СУДЗЕ

Суддзя: — Чаму вы дайшлі да такой ступені ап'янення?

Кастусь: — Я трапіў у дрэнную кампанію. Нас было чацвёра. У мяне была бутэлька гарэлкі, а апошнія трое не захацелі піць!

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Чаму ты ставіш крыжык у маім дзённіку замест таго, каб проста распісацца? — пытае Пятрук бацьку.

— Я не хачу, каб твой настаўнік падумаў, што ў такога двоечніка, як ты, бацька ўмее чытаць і пісаць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Гаспадар фірмы праінструктаваў новую сакратаршу, што ёй трэба адказваць наведвальнікам.

Прыходзіць першы наведвальнік. Яна пытае:

— Ці прадстаўляеце вы іншую фірму? Ці хочаце атрымаць грошы па рахунку? Ці з'яўляецеся сябрам дырэктара?

— І тое, і другое, і трэцяе.

— У такім выпадку, — заяўляе сакратарша, паглядзеўшы ў свае запіскі, — дырэктар зараз на пасяджэнні, ён выехаў на два тыдні, і я зараз паведамлю яму аб тым, што вы прыйшлі.

*

У тэатры перад пачаткам другога акта на сцэну выходзіць адміністратар і гаворыць:

— Панове, адзін з гледачоў згубіў у антракце бумажнік з дзвюма тысячамі франкаў. Ён прапануе сто франкаў таму, хто зверне яму згубу.

Маўчанне, потым з залы раздаецца голас:

— А я прапаную дзвесце франкаў.




Усё людскае нам не чужое.

— Увесь лес прайшоў, а дзе тыя грыбы?

### ЁН І Я

Я з Данілам Тапарковым
Дружна жыў, душа ў душу.
Чалавек ён быў талковы,
З плеч не сек, я вам скажу.

Не любіў размоў-сутычак,
Хоць і ранг вышэйшы меў.
Я — ляснік,
А ён — ляснічы.
Службу кожны разумеў.

Хвойнік спляжыў я на дровы.
Іншы б — з'еў! А мой: „Сядай..."
...Ён паўслова,
Я — тры словы, —
І даклад гатоў, чытай!

І чытала ўсё начальства,
Факты брала ў свой даклад:
„Ані трэсачкі на ўчастак,
Ані пня — парадак, лад!.."

Працавалі шчыра, з сэрцам,
Слоў і звад не зналі злых.
Ён — бярвенца,
Я — паленца.
Хіба многа на дваіх?

Дом ён меў,
І я меў хатку
У райцэнтры, дзе чысцей.
З вінаватых для парадку,

Браў ён — дзве,
А я — дзесятку.
Ён — праз дзень,
А я — часцей...

Тут ужо не мог я схібіць.
Хоць ты шэф, але збачай!..
За маё ж любіў ён выпіць,
А гарэліца — не чай!

Я з Данілам Тапарковым
Дружна жыў, душа ў душу.
Наламалі ўсё-ткі дроў мы,
І нямала, вам скажу.

Бы свінцовыя, галовы.
Не схаваць вачэй нідзе.
Ён маўчыць,
І я — ні слова.
А над намі суд ідзе.

**Мікола Чарняўскі**



— Як вы сябе адчуваеце?

### ЭЛАЧКА

— Элачка, дзіцятка, схадзі да мясніка і паглядзі, ці ёсць у яго свіныя ножкі.

Праз паўгадзіны Элачка вяртаецца.

— Ну што, бачыла? — пытае маці.

— Не, я чакала-чакала, ды ён так і не зняў ботаў, а папрасіць я пасаромелася...

### ХВОРАЯ

— Як жонка?

— Страшна! У яе неўралгія, неўрыт, нефрыт, неўрастэнія і пачынаецца неўроз...

— Чакай, немагчыма адчуваць усе сімптомы адразу!

— Магчыма. Яе маці падарыла ёй медыцынскі слоўнік, і яна зараз прапрацоўвае літару Н...

# Канфлікт

Дзед чытаў газету, лежачы на канапе, баба сядзела ў крэсле і глядзела па тэлевізары хакей, а ўнук рыхтаваў урокі.

— Дзед, што такое канфлікт? — спытаў унук.

— Ну гэта, калі два бакі, не паладзіўшы... Ты, унучак, лепш спытай у бабы, я заняты.

— Баба, што такое канфлікт?

— Не перашкаджай, — сказала бабуля, не адрываючы вачэй ад экрана, дзе якраз у гэты момант каля варот любімай яе каманды ўтваралася куча з ігракоў. Але ўсё ж яна паспрабавала растлумачыць:

— Канфлікт — гэта калі двое ці некалькі чалавек за што-небудзь паспрачаліся.

— Як паспрачаліся? — не зразумеў унук.

— Стары, — павярнулася баба да дзеда, — растлумач малому. Не такі ты ўжо заняты.

— Дзед, баба сказала, каб растлумачыў мне, што такое канфлікт, бо ты не вельмі заняты.

Дзед адарваўся ад газеты, зірнуў на бабу.

— А ты вельмі занятая? Усе вечары перад гэтай скрынкай праседжваеш. Хакей табе патрэбен. Можа, і сама з клюшкай на лёд выбежыш?

— Гэта я праседжваю? — не ўтрымалася баба. — А ты што робіш? Лежнем ляжыш на канапе. А з унукам пазаймацца і часу не знойдзеш.

— Дзед, што такое канфлікт?

— Пачакай, унучак. — Дзед зняў акуляры, кінуў на канапу газету. — Значыць, я лежнем ляжу? А хто маю справу робіць? Ты?

— А хто па дому ўсё робіць? Ты за мяне? Цябе ж, старога карча, ні ў магазін не пашлеш, ні на рынак.

— Я корч? А ты ведаеш, хто ты?..

— Дурань ты сам, — апярэдзіла баба дзеда.

— Ах так! — падхапіўся дзед з канапы. — Качарга ты ржавая!

Чым бы скончылася гэта сутыкненне, каб не ўнук? Ён стаў паміж дзедам і бабай і закрычаў:

— Стойце! Дзед і баба, пачакайце! Не трэба мне тлумачыць... Я ўжо сам зразумеў, што такое канфлікт.

**Васіль Хомчанка**



— Выбачайце, мадам, калі будзе крыху дымна.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Анны Бушко з Белавежы, Юркі Рыбака з Галадоў, Галены Федарук з Зубава, Анкі, Надзі і Якуба Нікіцюкоў са Ступнік, Веська Мартынюка і Лявона Апалінскага з Паўлаў змяшчаем песню

## Rysunek na szkle

słowa: Janusz Kondratowicz
muzyka i wykonanie: Krzysztof Krawczyk

Jeszcze sam się uczę siebie,
żyję tak jak umiem żyć —
do utraty tchu.
Raz mi gorzej z tym, raz lepiej,
rzucam się
w zdarzeń rwący nurt.

Jak w ucieczce, jak w podróży
do zamkniętych pukam drzwi,
byle serce nieść.
I choć nic się nie powtórzy,
jeszcze raz
myślą sięgam wstecz.

O, jest gdzieś niebo jak len,
ooo, noc za krótka na sen,
o, dom, gdzie czeka znów ktoś
i gdzie miejsca jest dość
dla spóźnionych gości.

O, twój rysunek na szkle,
tylko na nim już dziś
nie ma mnie.

Idę dalej, żyję prędzej,
pragnę, tracę to, co mam —
czas doradcą złym.
Wieczorami piszę wiersze,
chociaż ty
już nie czytasz ich.

Biegną wiosny i jesienie,
coraz bardziej dzieli nas
morze zwykłych spraw.
Mam już tylko to wspomnienie,
choć i w nim
mniej tych jasnych barw.

O, jest gdzieś niebo jak len...

Ale kiedyś sam w pół drogi
stanę, cisnę nagle w kąt
cały ten mój świat.
Twarz ochłodzę kroplą wody,
jakby mi
znów ubyło lat.

I odnajdę tamten ogień,
i gościnny domu próg,
i przyjazną dłoń.
Lecz czy tamtą twą urodę
zwróci nam
rzeki bystra toń?

O, jest gdzieś niebo jak len...

### ВОПЫТНЫ ДРЭСІРОЎШЧЫК

— Вопытны дрэсіроўшчык можа навучыць свайго сабаку практычна ўсяму. Я, напрыклад, прывучыў свайго сабаку не ляжаць пад канапай, а гэта было яго ўлюбёнае месца.

— І як жа гэта вам удалося?

— Вельмі проста: я адпілаваў ад канапы ножкі.




### АКУЛІНЫЯ СТРАСЦІ

Усё пачалося з амерыканскага фільма „Сківіцы", больш дакладна з яго „галоўнага героя" — акулы-людаеда. Як заявіў новазеландскі кінадзялок Хемінгтон, толькі за першыя дні дэманстрацыі „Сківіцы" прынеслі „многія і многія тысячы долараў". Мясцовыя газеты пішуць, што ў Аўстраліі ў час кінасеанса нехта памёр. Затое другі аўстраліец — нейкі Уолі Гібінс выказаў жаданне за мільён долараў сустрэцца з акулай у „падводнай карыдзе". „Усякі, хто стане глядзець на гэта, — ідыёт. Але я быў бы дрэнным бізнесменам, калі б не ўзяўся за такую справу", — адгукнуўся на прапанову Гібінса амерыканскі прадзюсер Уільям Сарджэнт.

Ну, а сапраўдныя акулы? Новая Зеландыя, як вядома, акружана морамі. Статыстыка сцвярджае, што ахвярамі акул за апошнія 120 гадоў сталі дзевяць чалавек. Аднак у сувязі з дэманстрацыяй „Сківіц", „падмацаванай" выпускам велізарным тыражом аднайменнай кнігі, новазеландскія пляжы ў самы разгар гарачый аказаліся намнога больш пустыннымі, чым звычайна. Іх уладальнікам прыйшлося патраціць вялікія сродкі на рэкламу, каб зменшыць паніку. Адным словам, пакуль адны дзялкі нажываліся на акулах, другія цярпелі страты.

### РАННЯЕ СТАРЭННЕ

У гісторыі маюцца выпадкі вельмі ранняй старасці. Так, венгерскі кароль Людвіг II у 14 год меў густую бараду, а ў 15 год ажаніўся, у 18 год пасівеў і ў 20 год памёр з усімі прыкметамі адрахлення.




**Добры глыбух павінен быць падобны да Пізанскай вежы: заўсёды схілены перад начальствам, але ніколі не падаць.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020